# наша свабода

№95(182) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 ВЕРАСНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ



## Свабода, дабро, справядлівасць

*Уладзімір Ганчарык заклікаў галасаваць толькі 9 верасня*




Фота Ул.ШЛАПАКА

Некалькі тысяч мінчукоў сабраліся 2 верасня на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, каб пазнаёміцца з адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімірам Ганчарыкам. Хоць Кастрычніцкая плошча наўмысна цалкам была запоўненая палаткамі школьнага кірмашу, людзі размясціліся паміж Палацам Рэспублікі і Палацам культуры прафсаюзаў.

Праз усе выступленні – і Уладзіміра Ганчарыка, і ягоных давераных асобаў – чырвонай ніткай праходзіў заклік прыйсці на ўчасткі для галасавання і аддаць свой голас за адзінага кандыдата непасрэдна 9 верасня. Датэрміновае галасаванне, якое ўлады арганізуюць з 4 верасня, дае бязмежную прастору для фальсіфікацыяў. Ёсць усе шанцы перамагчы, але дзеля перамогі трэба прагаласаваць у дзень выбараў, 9 верасня.

Выступ Уладзіміра Ганчарыка вельмі прыязна ўспрыняты прысутнымі, якія часта скандзіравалі «Ганчарык! Ганчарык!». Кандыдат уразіў цудоўным валоданнем як беларускай, так і рускай мовай – гэты факт таксама станоўча ўспрыняты мінчукамі. Адзіны кандыдат расказаў мінчукам пра найбольш прынцыповыя палажэнні сваёй перадвыбарнай платформы і адказаў на шматлікія пытанні ўдзельнікаў сустрэчы. Вось некаторыя выказванні па найбольш балючых праблемах, закранутых Уладзімірам Ганчарыкам.

**Пра міліцыю.** «Міліцыя ў нас будзе. Але будзе міліцыя, якая будзе паважаць закон, міліцыя, сама абароненая законам; але не ЗУБРанят будзе разганяць, не лістоўкі здзіраць – яна будзе абараняць грамадзянаў, іх кватэры, іх дачы, іх машыны і змагацца з бандытамі – гэта намнога цяжэй, чым разганяць пікеты і мітынгі. Гэтага не будзе».

**Пра знешнюю палітыку.** «Мы зробім усё, каб у нас было больш сяброў, а не ворагаў – як на Захадзе, так і на Усходзе. І мы зробім тое, што запісанае ў Канстытуцыі 1994 года і цяперашняй Канстытуцыі, мы не адступім ні на ёту ад запісанага: Беларусь – незалежная дзяржава – яна такою і будзе, запісана, што Беларусь – дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава – так і будзе».

**Пра сапраўднасць дакументаў па знікненні палітычных апанентаў рэжыму.**

*Заканчэнне на стар.3*

## Прывазныя «выбаршчыкі»

У рэдакцыю НАШАЙ СВАБОДЫ патрапіла копія вельмі цікавага дакумента. Называецца ён «Пратакол паседжання арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні сустрэчы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р. з выбаршчыкамі 4 верасня 2001 г.». Папера датаваная 21 жніўня.

Дакумент вызначае ролю найвышэйшых чыноўнікаў беларускай дзяржавы ў падрыхтоўцы такой сустрэчы.

### Касцюміраванае шоу

У скарочаным выкладанні сцэнар сустрэчы кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі з выбаршчыкамі выглядае так: па ўсёй Беларусі вертыкаль адбірае «правераных людзей» у адпаведнасці з разнарадкамі (узрост, пол, прафесія і г.д.). Спісы гэтых адселектаваных выбаршчыкаў накіроўваюцца ў лукашэнкаўскую адміністрацыю і Савет міністраў на зацвярджэнне. Адначасова адбіраюцца прадстаўнікі кішэнных «палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў». Сталіцу, апроч таго, будзе прадстаўляць натоўп вайскоўцаў і міліцыянтаў.

4 верасня старанна адабраныя выбаршчыкі будуць збірацца ў аўтобусы і арганізавана, калонамі рушаць у Палац Рэспублікі. За тым, каб усё праходзіла гладка, будуць сачыць прэзідэнцкая адміністрацыя і міністэрства ўнутраных справаў. Міністэрства аховы здароўя будзе дбаць пра тое, каб усе запрашэнцы пачувалі сабе добра. Міністэрства замежных справаў запросіць замежных гасцей.

*Заканчэнне на стар.4*

## Кому пошли миллионы комиссионных?

*Экс-председатель правления Национального банка Беларуси Тамара Винникова отвечает на вопросы о доходах и имуществе первого президента Беларуси Александра Лукашенко.*

— В тот промежуток времени, когда я работала вместе с ним, никаких личных счетов у Лукашенко не было — ни в нашем государстве, ни за рубежом. На его фамилию никогда не оформлялась никакая собственность. Но экономическое пространство нашего государства сегодня не защищено законодательно — не регулируются очень многие операции. Например, когда за рубежом закупаются крупные партии каких-то товаров, то выплачивается комиссионное вознаграждение — приблизительно 10 процентов от сделки. Вот эти десять процентов — кому они уходят, в чьи карманы, где они? Это законодательно никак не отражено. Это не наказывается — это то, с чем сейчас столкнулось общество в деле Павла Бородина. К нему невозможно применить никиких мер, потому что законодательство России не предусматривает наказания за получение комиссионных. То же самое у нас в республике: Беларусь закупает товаров в год приблизительно на 6 миллиардов долларов. А кто получает комиссионное вознаграждение — никто не знает.

Я думаю, что Лукашенко со своим декретом об обязательном декларировании доходов и имущества кандидатов в президенты может оказаться в ситуации, как в пословице: не рой другому яму — сам в нее попадешь.

*Окончание на стр.5*

## Такі футбол нам не патрэбны

*Міліцыі загадалі раздзяваць людзей*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Трэба меркаваць, апошнімі двума тыднямі прозвішчы Аляксандра Лукашэнкі і мэра Мінска Міхаіла Паўлава шмат разоў зляталі з языкоў футбольных заўзятараў у суправаджэнні нелітаратурнай лексікі. Заклапочаныя палітычнай перадвыбарнай аздобай вельмі ажыятажнага ў народзе і важнага для беларускай зборнай матча з Украінай, улады папросту пазбавілі многіх людзей магчымасці патрапіць на стадыён, каб на свае вочы, на свае нервы і на свае галасы падтрымаць родную каманду. Спартовая газета «Прэсбол» нават назвала такія дзеянні ўладаў ні больш ні менш «злачынствам супраць футбола».

Дарма многія заўзятары, і не толькі з Мінска, а прыезджыя з усёй Беларусі, таўкліся і дзяжурылі гадзінамі і днямі каля касаў стадыёна «Дынама». Ужо за тыдзень да матча на вакенцах касаў віселі надпісы, што білетаў на футбол няма. А ўсё таму, што вольны продаж у самым разгары распараджэннем сталічнага мэра быў спынены. Такім чынам было распрададзена толькі каля 25% квіткоў (усяго ж «Дынама» мае 40.000 месцаў). Большую іх частку размеркавалі па мінскіх прадпрыемствах (афіцыйнае тлумачэнне: каб футбол маглі пабачыць працоўныя масы). Няўжо, на думку мінскіх чыноўнікаў, прыходзіўшыя купляць квіткі да касаў «Дынама» і не народ зусім. Рэшта дасталася праваахоўнікам (болей за 2 тысячы квіткоў), а таксама БПСМаўцам. Перакупшчыкі прадавалі «лішнія квіткі» па коштце ад 15 тысяч рублёў і вышэй. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб сярод прысутных пераважалі тыя, хто падчас гульні мог бы шумна і шчасліва вітаць там Аляксандра Лукашэнку. Адміністрацыі заводаў павінны былі прасачыць за палітычнай надзейнасцю аквіткаваных шчаслівчыкаў. Кажуць, членам БПСМ нават раздалі шапачкі двух колераў, каб у выпадку гола ва ўкраінскую браму яны групаваліся так, каб атрымліваўся вялікі чырвона-зялёны сцяг. БТ атрымала заданне перадаць гэтую карцінку на ўсю краіну ў сваёй прамой трансляцыі.

*Заканчэнне на стар.8*

## 9 верасня, 20.05, Кастрычніцкая плошча

Лідэр АГП А.Лябедзька заклікаў прыхільнікаў адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзіміра Ганчарыка прыйсці 9 верасня ў 20.05 на Кастрычніцкую плошчу Мінска, каб чакаць там вынікаў галасавання. У 20.00 9 верасня зачыняцца ўчасткі для галасавання і распачнецца падлік галасоў. Ён таксама заклікаў менчукоў прыйсці сюды 4 верасня ў 9.30 — перад пачаткам сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі са сваімі выбаршчыкамі ў Палацы Рэспублікі. Лябедзька прапанаваў сустрэць прыхільнікаў Лукашэнкі партрэтамі людзей, зніклых без вестак.

## На выбары моладзь хочуць ізаляваць

Многім маладым людзям, мажліва, не ўдасца прагаласаваць на прэзідэнцкіх выбарах. Паводле звестак Беларускага Хельсінкскага камітэта, у ВНУ сталіцы збіраюцца рабіць захады, каб студэнты з'ехалі з горада на 9 верасня. Напрыклад, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры з 6 па 12 верасня студэнтаў накіроўваюць на практыку. На перыяд выбараў інтэрнат зачыняецца на рамонт, таму іншагароднім студэнтам давядзецца пакінуць Мінск.

## Беларусы будуць галасаваць і за мяжой

Па звестках міністэрства замежных справаў, у спісах беларускіх грамадзянаў, якія маюць права ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах за мяжой, 13.068 выбаршчыкаў. Гэта тыя, хто пражывае за межамі Беларусі альбо знаходзіцца там у доўгатэрміновай камандзіроўцы. Галасаванне для іх будзе арганізаванае на 37 выбарчых участках у трох дзесятках краінаў.

## Памерла самая старая беларуска

У вёсцы Малыя Лязневічы, што на Навагрудчыне, памерла самая старая жыхарка Беларусі Фёкла Баброўская. Яна памерла ва ўзросце 118 гадоў. Ф.Баброўская пажыла ў трох стагоддзях і памятала жыццё пры цары, за польскім часам, 1917 год, Другую сусветную вайну. Мела прапраўнукаў.

## Не ўсе грыбы ядомыя

Паводле дадзеных Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, за 8 сёлетніх месяцаў па краіне зарэгістравана 68 выпадкаў атручэння грыбамі. Усяго пацярпелі 96 чалавек, прычым 8 чалавек памерлі. Усе ад ужывання ў ежу бледнай паганкі.

### НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1470**

# Свабода, дабро, справядлівасць



Фота Ул. ШЛАПАКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

«Гэтая трагедыя звязаная з тым, што не проста зніклі людзі – зніклі вядомыя палітыкі, грамадскія дзеячы. Гэта Захаранка, гэта Ганчар, Красоўскі, многа няяснага з Завадскім, смерцю Майсені і Карпенкі. Многа пытанняў ёсць яшчэ да ўлады. Я вельмі хацеў бы памыліцца... Я зрабіў усё, што мог бы любы чалавек на маім месцы. Гэта сапраўдныя матэрыялы... Што ёсць рапарт Лапаціка – прызнаў ужо міністр унутраных справаў Навумаў; Алкаеў (начальнік СІЗА №1. – **Р.Б.**) пацвердзіў сваю інфармацыю – з ім была тэлефонная размова. Ёсць запіс інтэрв'ю здымачнай групе ГРТ Паўла Шарамета. На жаль, гэты запіс пасля асабістага ўмяшальніцтва Лукашэнкі тэлебачанне не паказала – яго паказваюць на Захадзе. Ёсць арыгінал журнала, па якім выдаваўся гэты расстрэльны пісталет. У гэтых матэрыялах названыя імёны: былога дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Шэймана, які аддаваў загады па захопе гэтых людзей, тых, хто садзейнічаў гэтаму – былога міністра ўнутраных справаў Сівакова – а гэта людзі, якія працавалі непасрэдна пад кіраўніцтвам Лукашэнкі, — і выканаўцы гэтага злачынства – Паўлічэнкі. Я прапаноўваў, я прасіў, патрабаваў і дагэтуль патрабую – спадзяюся, што і вы падтрымліваеце гэтае патрабаванне: улада павінна правесці, прычым пажадана да 9 верасня, расследаванне гэтых злачынстваў. А не капаць ямы там, дзе — ведаюць – няма зніклых людзей. З'яўляюцца новыя сведкі, факты... Гэта я не магу расцаніць інакш, як уладзе ёсць што хаваць. Улада – злачынная».

**Пра адказнасць за фальсіфікацыі.** «Я хачу папярэдзіць тых, хто збіраецца фальсіфікаваць выбары. Вам прыйдзецца адказваць па законе – а гэта да 5 гадоў зняволення. І тут ні ў кога не дрогне рука, каб падпісаць такое рашэнне (я маю на ўвазе суддзяў) – вы павінны ведаць, што іх таксама будзе выбіраць народ, а не прызначаць».

**Пра прыватную ўласнасць на зямлю.** «У нас і сёння часткова існуе прыватная ўласнасць на зямлю, і мы зробім усё, каб чалавек, які б хацеў працаваць, а галоўнае – умеў, мог ці ўзяць у арэнду, ці купіць зямлю. Але я не магу і не буду гарантаваць – усё будзе рабіцца ў рамках закона, і, канечне, абыякавага продажу зямлі не будзе».

**Пра палітычных вязняў.** «Усім рэпрэсіраваным па палітычных матывах мы адновім добрае імя і іхнія законныя правы. Гэта будзе зроблена».

**Пра войска.** «У нас будзе харошае мабільнае забяспечанае войска, будзе скарочаны тэрмін тэрміновай службы, будзе альтэрнатыўная служба. І паступова пяройдзем на прафесійнае войска».

**Пра лёс Лукашэнкі пасля перамогі У.Ганчарыка.** «Калі ён не мае дачынення да гэтых злачынстваў, ён будзе жыць па законах Беларусі. Забяспечана».

У падтрымку адзінага кандыдата і з крытыкай цяперашняй улады жорстка выступіў паэт-выгнаннік Уладзімір Някляеў. «Яшчэ два гады таму, калі я заявіў, што Лукашэнка болей не прэзідэнт, а дыктатар, які парушыў Канстытуцыю, захапіў уладу, са школаў пачалі забіраць мае кніжкі, з радыё і тэлебачання пачалі здымаць песні. Але я напісаў столькі, што зняць усе не змаглі. І да гэтай пары гучыць па тэлебачанні песня «Мы першы бакал уздымем па праву за Белую Русь, за нашу дзяржаву, за славу яе, за гордую славу – нам ёй даражыць». Гэтая песня была напісаная ў першыя гады нашай незалежнасці, калі здавалася, што Беларусь вось-вось здабудзе, адродзіць сваю гордую славу. Але па нашым недаглядзе да ўлады прыйшоў Лукашэнка, і не ўступілі ў вольную сям'ю еўрапейскіх народаў, а ўступілі туды... не магу назваць гэтае слова – у балота, жабрацтва, галечу. Сем гадоў ва ўладзе Лукашэнка – дзеці, якія нарадзіліся ў 94 годзе, сёння ўжо пайшлі ў школу. Гэта агромністы кавалак нашага жыцця, і калі азірнемся назад, што ўбачым: рэферэндумы нейкія, сходы, лыжныя паходы, лядовыя палацы, дзе гандлююць анучамі? Сёняшнія выбары падобныя на што заўгодна, толькі не на выбары. Гэта відавочная спроба Лукашэнкі, скарыстоўваючы ўсю сваю неабмежаваную ўладу, прызначыць зноў самога сябе на пасаду прэзідэнта Беларусі. Але яму гэта не ўдасца зрабіць, калі мы пойдзем выбіраць», — заявіў Уладзімір Някляеў.

Старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка гаварыў пра надзённае – матч зборных Беларусі і Украіны 1 верасня. «Учора на футбольным матчы ў некалькіх сектарах маладыя людзі з Маладога Фронту шчыра хацелі выказаць падтрымку сваёй камандзе сцягамі нашых старажытных колераў. Іх жорстка збілі. Іх вывалаклі са стадыёна, у аднаго з іх – Івана Тамашэвіча разбітая да крыві галава. Замест футбола быў пастаўлены садысцкі спектакль сіламі АМОНа і сумна вядомага СОБРа. Спектакль для аднаго гледача, таго гледача, які, відаць, і на футбол ходзіць не дзеля футбола, а дзеля гэтай сумнеўнай радасці, якую адчувалі рымскія садысты падчас гладыятарскіх баёў...».

Экс-міністр абароны Павел Казлоўскі звярнуў увагу на амбіцыі Лукашэнкі: «У 1992 годзе быў прыняты закон аб усеагульным вайсковым абавязку, дзе вышэйшым вайсковым званнем у Беларусі было званне генерал-палкоўніка. Я настойваў на тым, каб вышэйшага звання не было: малая рэспубліка, невялікая прафесійная армія. І калі два дні назад, ці нават тры дні, я ўбачыў на экране тэлевізара незразумелага чалавека ў форме генерала, мне стала страшна. Мне было непрыемна, што нехта проста так можа апрануць генеральскую форму, якую ён не заслужыў... У сусветнай гісторыі былі 19 генералісімусаў; і я зразумеў, што 20, напэўна, мяркуе стаць Лукашэнка.

Першы сакратар Партыі камуністаў Беларускай Сяргей Калякін упэўнены, што ў выпадку перамогі А.Лукашэнкі «нашыя дзеці будуць жыць у два разы горш, чым мы сёння». «І я не здзіўлюся, калі пасля гэтых выбараў мы атрымаем пажыццёвага прэзідэнта, як у некаторых сярэднеазіяцкіх рэспубліках. Я заклікаю вас прыйсці 9 верасня і прагаласаваць, галасаванне датэрмінова – гэта галасаванне за Лукашэнку, нават калі вы прагаласуеце супраць. Таму галасуем толькі ў дзень галасавання. Разам мы пераможам».

«У нас ёсць пункт адліку – 9 верасня. Я вельмі прашу вас, вашых блізкіх і родных: парайцеся з кім вы, бо мы галасуем не проста за сябе, мы галасуем за нашую будучыню, будучыню нашых дзяцей і ўнукаў. І правільны выбар – забяспечыць ім ужо з 10 верасня рух у бок нармальнага цывілізаванага справядлівага забяспечанага жыцця», — заклікаў мінчукоў Уладзімір Ганчарык. 10 верасня, заявіў У.Ганчарык, «мы сабяромся тут (на Кастрычніцкай плошчы. – **Р.Б.**), каб адсвяткаваць нашую перамогу», — упэўнены У.Ганчарык.

**Рыгор БУЯН**

# Александр Григорьевич учится у Леонида Ильича

Александр Лукашенко, похоже, решил следовать примеру Брежнева, который, как известно, окончив войну полковником, за время своего правления обзавелся маршальским мундиром с несметным количеством наград. У Александра Григорьевича наград пока меньше. Зато мундир ничуть не хуже. В него он и облачился на оперативно-тактических учениях «Неман-2001».

Судя по фуражке, Лукашенко имеет воинское звание генерал армии. Но в белорусской армии такое звание не предусмотрено: «потолком» любого военачальника являются погоны генерал-полковника.

Хотя общественности известно, что г-н Лукашенко являлся всего лишь майором запаса. Впрочем, вполне возможно, что за время президентства звездочек на погонах прибавилось. Присвоить президенту воинское звание «подполковник» вполне мог назначаемый им же министр обороны, а остальные (полковник, генерал-майор, генерал-лейтенант и генерал-полковник) – он сам лично.

Однако Лукашенко, похоже, и этого мало. Поэтому кто-то посоветовал или он сам придумал себе довольно своеобразные погоны. По оформлению они очень схожи с маршальскими (наличие герба страны). Хотя не достает большой «звезды».

Так что остается только гадать, какое воинское звание на самом деле у Лукашенко. И даже умудренные опытом армейские офицеры затрудняются определить, кто ими командует: отставной майор или самозваный генерал маршал.

**Пресс-центр Владимира Гончарика**

# Белорусский посол не так себя понял

Всего за десять дней до президентских выборов посол Беларуси в США подложил Александру Лукашенко большую свинью. «Не следует относиться к этим выборам как к абсолютно справедливым», – заявил Валерий Цепкало. Вероятно, дипломат хотел сказать что-то хорошее и не думал поднимать бунт против Лукашенко, но получилось как раз наоборот.

«Интерфакс» цитирует следующее неосторожное высказывание посла: «Александр Лукашенко обладает большими рычагами влияния, чем его оппоненты, и это можно считать преимуществом на предстоящих выборах главы государства». На действующего президента пресса обращает больше внимания, чем на его соперников, пояснил господин Цепкало. «И это свойственно не только Беларуси», – тут же попытался выкрутиться он. Но было поздно.

**Агентства вынесли в заголовок другую фразу: «Не следует относиться к этим выборам как к абсолютно справедливым».**

Брифинг в белорусском посольстве был устроен в ответ на действия госдепартамента США. Из Вашингтона в Минск 29 августа пришла официальная бумага, критикующая гонения наблюдателей ОБСЕ, закрытия оппозиционных газет и прочие ущемления. Наверное, посол Беларуси хотел объяснить американцам простую вещь – точно так же, как нельзя воспринимать китайскую философию через категории Канта, неразумно подходить к белорусским выборам с догмами демократии. Разные материи это. Американцы смотрят на свободу как прагматики, а белорусы, во всяком случае белорусский посол, – как конфуцианцы.

Господин Цепкало мог бы, конечно, выражаться попроще. Например, как глава ЦИК Беларуси Лидия Ермошина, которая в газете «Звязда» прямо заявила, что американских госдеп своей бумагой «озвучил политический заказ», выполнять который должны наблюдатели ОБСЕ. А господин Лукашенко, уже давно догадавшийся, что ОБСЕ приехал не наблюдать, а организовывать деятельность оппозиции, вовсе послал Вашингтон с наблюдателями куда подальше, объяснив, что американцам не хватает культуры.

«300 лет их цивилизации. У нас с вами – больше двух тысяч. Ну не доросли они до нашей цивилизации. Не умеют себя вести корректно», – сказал Лукашенко, тоже, видимо, сопоставляя конфуцианство (6 тыс. лет до н.э.) с американским прагматизмом (70-е гг. XIX в.). Однако глава дипломатической миссии Беларуси в США не мог позволить себе такую прямолинейность, потому что дотошные американцы наверняка бы поинтересовались, почему европейским наблюдателям нельзя помогать врагам Лукашенко, а российским политикам – Зюганову, Селезневу, Яковлеву и Жириновскому – можно.

Когда корреспондент «Газеты.ru» обратился с таким вопросом в белорусский ЦИК, там отказались отвечать. «Мы занимаемся соблюдением закона, а не политическими комментариями, – заявил начальник информационного отдела ЦИК Валерий Юревич. – Мы можем отреагировать только по факту поступления заявлений и жалоб. Вот, например, мы удовлетворили жалобу кандидата Гайдукевича и предоставили ему время на телевидении, чтобы опровергнуть выступления Жириновского (Жириновский обвинил Сергея Гайдукевича, лидера Либерально-демократической партии Беларуси, в расхищении спонсорских денег из арабских стран. – «Газета.ru»). А по поводу каких-то заявлений посла к нам с жалобой никто не обращался».

Будет ли кандидат оппозиции Владимир Гончарик использовать опрометчивые высказывания государственного чиновника Цепкало в жалобе в ЦИК, «Газете.ru» выяснить не удалось.

Неофициальные комментаторы «Газеты.ru» допускают два варианта дальнейших событий – посла накажут и отзовут уже после второго тура президентских выборов (он в таком случае успеет попросить политического убежища) или историю с разоблачением несправедливых выборов спустят на тормозах, объяснив, что посла неправильно поняли. Второй вариант более вероятен. Белорусские власти показали, как это делается.

**Gazeta.ru**

## ЧАС ВЫБІРАЦЬ! 9 ВЕРАСНЯ



# Такі футбол нам не патрэбны

## *Міліцыі загадалі раздзяваць людзей*

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Спраўдзіць ці наадварот абвергнуць гэтую інфармацыю падчас матча не ўдалося хоць бы таму, што гола ад беларускіх футбалістаў мы так і не дачакаліся. Што да самога футбола, то пераказваць тое, што было ўвечары 1 верасня на стадыёне «Дынама», пры тэлетрансляцыі, няма ніякага сэнсу. На жаль, Андрэй Шаўчэнка – украінец, а не беларус. Эдуард Малафееў учыстую прайграў Валерыю Лабаноўскаму. Аднак шанцы на 2-е месца ў групе, якое дае магчымасць патрапіць на чэмпіянат свету праз стыкавыя матчы, яшчэ застаюцца (першае пасля перамогі 3:0 над нарвежцамі за два туры да канца групавога турніру занялі палякі). Цяпер усё будзе залежаць ад таго, як зборная Беларусі згуляе ў двух астатніх матчах, пакуль што мы на адно ачко адстаем ад украінцаў. Цяпер саперніцтва з імі працягнецца завочна. Але з такой гульнёй, якую паказала наша каманда 1 верасня, перспектыва стыкавых матчаў бліжэй да нашых паўднёвых суседзяў. У гэтым сезоне беларускія заўзятары такога расчаравання, як ад гэтага першавераснёўскага матча, яшчэ не мелі. У сустрэчы з украінцамі яны пачалі пакідаць трыбуны за 15 хвілінаў да канца гульні.

Але негатыўных эмоцыяў можна было набрацца на гэтым футболе і без шэрай паразы. І рэч не толькі ў перадматчавым абсурдным безквіткоўі. Беспрэцэдэнтныя дагэтуль захады па ахове парадку на стадыёне і ягоным наваколлі часам ператвараліся ў амаль што надзвычайныя і празмерныя. Тое, што дужа пільнавалі ўкраінцаў, якіх у Мінск прыехала каля тысячы, зразумела. Пасля першага матча на вуліцах Кіева адбыліся досыць жорсткія ўкраінска-беларускія бойкі, праваахоўнікамі было затрымана некалькі дзесяткаў чалавек.

Нягледзячы на тое, што стадыён быў адчынены за дзве гадзіны да матча, міліцыя не вельмі каб спраўлялася з патокам балельшчыкаў. Каля некаторых сектараў узнікалі пяцідзесяціметровыя чэргі незадаволеных людзей. Сотні людзей прапусцілі па 5-15 хвілінаў футбола. Збольшага з-за Лукашэнкі. Праход да таго месца, дзе той глядзеў футбол, на пэўны час ачапілі. Спыненаму на шляху да сваіх сектараў, дзе іх яшчэ чакалі немалыя чэргі, народу з-за міліцэйскіх шэрагаў заставалася адно што абурацца. Яно яшчэ больш узрастала, калі людзі даведваліся, з-за каго гэтая затрымка. Лукашэнку прывезлі на футбол пад самыя трыбуны роўна за дзесяць хвілінаў да пачатку матча. Сіні касцюм з белай бейсболкай заўзятары сустрэлі свістам. Дарэчы, на футболе быў заўважаны і яшчэ адзін кандыдат на прэзідэнта Уладзімір Ганчарык. Ён з'явіўся на стадыёне куды больш сціпла, чымсьці Лукашэнка, праўда, у агульнай чарзе не стаяў, прайшоў, скарыстаўшыся статусам кандыдата на прэзідэнта.

Каб патрапіць на трыбуны, трэба было тройчы прайсці шматколькасную міліцэйскую варту. Заўзятараў ад малых да жанчынаў абшуквалі, некаторых нюхалі на алкаголь. Ужо даўно прызвычаіліся беларускія фаны, што нельга прыйсці на гульню з півам, няхай сабе і ў пластмасавай тары. Прызвычаіліся і да таго, што не пускаюць на стадыён з барабанамі, горнамі і ўсім тым, чым можна падтрымаць зборную і што ў цывілізаваных краінах балельшчыкам даюць на ўваходзе на стадыён, абы толькі стукалі ды дудзелі (дарэчы, ва ўкраінскіх балельшчыкаў, што прыехалі на гульню, нічога падобнага не адбіралі). Але чаму на гэты раз прымушалі выліць мінеральную ваду, выкінуць чыпсы і кінуць пад ногі непрачытаную газету – абсалютна незразумела. На стадыён не прапускалі нават з марозівам.

Яшчэ большае абурэнне выклікала ў масах забарона на ўваход на стадыён у аднаколерных футболках белага альбо чырвонага колеру. Тыя, хто прыходзіў у падобнага колеру майках, незалежна ад таго, пенсіянер ты ці дзяўчынка, вымушаныя былі альбо здаць футболку ў камеру захоўвання (нават калі на табе больш нічога апранута не было), альбо ісці глядзець футбол па тэлевізары. Тых, хто спрабаваў спрачацца, вялі на «выхаваўчыя працы» да аўтобуса з АМАПам.

Тым не менш пад самы пачатак гульні, калі натоўп жадаючых трапіць у сектар стаў непамерна вялікім, міліцыянтам, каб не стварыць яшчэ адну «нямігу», давялося пускаць на стадыён усіх.

І ў васемнаццаты сектар такім чынам прайшло каля стапяцідзесяці з запланаваных двухсот актывістаў маладзёжнага руху «Зубр». Яны расселіся ў адпаведнасці з месцамі такім чынам, што дзякуючы футболкам на трыбуне ўтварыўся вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Хаця ён і не быў паўнавартасны з-за прэвентыўных затрыманняў, але і журналісты, і міліцыянты яго добра ўгледзелі. Пры гэтым трыбуна ўвесь час ажыўляла сумны сектар скандзіраваннямі лозунгаў і асвістваннем (разам з усім стадыёнам) прысутнага на гульні Лукашэнкі.

Праз пяць хвілінаў у сектар уварваліся байцы СОБРа, якім камандуе западозраны дакументамі МУС у забойствах Паўлічэнка. Яны ў даволі жорсткай манеры ліквідавалі чырвоную паласу адбіраннем у актывістаў «Зубра» футболак. Нехта пажартаваў, што СОБРу мала чырвоных бярэтаў, ім яшчэ патрэбныя чырвоныя футболкі, каб ужо зусім прыгожымі быць.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Частку футболак удалося схаваць і ў перапынку правесці перадыслакацыю людзей з мэтай зноў утварыць жывы сцяг, няхай сабе і меншых памераў. Рух быў заўважаны міліцыянтамі і пачаўся сапраўдны гвалт. Аднаго з актывістаў «Зубра» пацягнулі па прыступках да выхаду, астатнія пачалі за яго заступацца. Пачалася бойка, якая працягвалася каля пяці хвілінаў. Людзей пачалі пачкамі выкідваць з сектара і пры гэтым даволі моцна збівалі. Некаторым заламвалі рукі і вялі ў аўтобус, дзе збіццё працягвалася. Усяго з сектара было выкінута больш за 250 чалавек. Але моладзь на гэтым не супакоілася і ўтварыла на ганку стадыёна яшчэ адзін вялікі жывы сцяг з сваіх актывістаў, які быў зняты на відэастужку аператарамі КДБ.

Тым часам у сектары №6 маладафронтаўцы ўзнялі некалькі нацыянальных сцягоў і таксама былі атакаваныя брыгадай СОБРа на чале з самім Паўлічэнкам. Моладзь, пабачыўшы яго, пачала скандаваць «забойца». Усяго было затрымана болей сотні маладафронтаўцаў. Лідэра МФ П.Севярынца затрымалі «для высвятлення асобы» яшчэ да гульні.

У перапынку матча пасля прайгранага 0:1 першага тайма быў наладжаны міні-канцэрт, падчас якога ў спевака Уладзіміра Ухцінскага на песні пра «тройку каурых скакунов» двойчы(!) перарывалася фанаграма. Пасля гэтага мала ўжо хто верыў, што нашы змогуць адыграцца. Так, на жаль, яно і сталася.

На матч Беларусь—Польшча таксама ў вольны продаж паступіла ўсяго толькі чвэрць квіткоў. Гісторыя паўтараецца..?

**Кірыл КАРЫМОНТ, Аляксей СТАЎБУД**



Фота Ул.ШЛАПАКА



Фота Ул.ШЛАПАКА

**КУЛЬТУРА**

## Юбілейны канцэрт «Ліцьвінаў»

5 верасня ў сталічным Доме культуры трактарнага завода пройдзе юбілейны канцэрт фольк-гурта «Ліцьвіны». Праграма называецца «Ліцьвінам» — 10 гадоў».

«Ліцьвіны» — адзін з самых вядомых фальклорных калектываў Беларусі. Цікавы факт тое, як гурт атрымаў сваю назву. Адбылося гэта выпадкова яшчэ ўлетку 1990 года. Тады на адным з першых выступаў тады безыменнага гурта «Ліцьвінамі» яго назваў канферансье, зацеміўшы, што «без назвы выступаць нельга». Але паўнавартаснае існаванне гурт, па словах ягонага кіраўніка Уладзіміра Бярберава, вядзе ад кіеўскага выступу зімой 1991 года.

Што да замежных гастроляў, якраз за межамі Беларусі, асабліва ў Польшчы і ва Украіне, «Ліцьвінам» даводзіцца выступаць болей, чымсьці на радзіме. Тут афішаў «Ліцьвінаў» нешта не відаць. Папярэдні юбілейнаму канцэрт музыкі далі акурат у Кіеве на імпрэзе ў межах З'езда ўкраінцаў свету і святкаванняў 10-ых угодак незалежнасці гэтай краіны.

За 10 гадоў творчасці «Ліцьвіны» выпусцілі 4 альбомы: «Галуб на чарэшні, галубка на вішні», «Неба і зямля», «5 сакавіка» і апошні «Ой, у лузе-лузе». На юбілейным канцэрце, як распавёў У.Бярбераў, музыкі выканаюць песні з усіх сваіх альбомаў. Апрача таго, будуць зграныя шэраг новых кампазіцыяў, у тым ліку падрыхтаваных адмыслова да юбілею.

У «Ліцьвінаў» унікальныя і амаль забытыя музычныя інструменты. Нешта выкарыстоўваецца, а штосьці проста ляжыць у своеасаблівым музеі інструментаў гурта. Прыкладам, гэта этнаграфічныя цымбалы маладзечанскай і вілейскай традыцыяў ручной работы з неакадэмічным гучаннем, трохрадны гармонік «Петраградка». Ёсць яшчэ дуды і скрыпкі вясковай работы. Паводле У.Бярберава, нейкага асаблівага дагляду старых музычных інструментаў няма. Ён кажа, што ўсё старое, дарэвалюцыйнае зробленае вельмі добра, і ў якасці прыкладу прыводзіць выпадак з гармонікам, з якім пасля рэстаўрацыі трохі было праблемаў. Прычым падводзіла менавіта адрэстаўраваная частка, а астатнія функцыянавалі як мае быць.

У рэпертуары «Ліцьвінаў» – народныя песні, абрадавая і танцавальная музыка. Стыль гурта ягоны кіраўнік вызначае як рэтра-стыль, тыповы для пачатку 20-га стагоддзя. Стылізацыя фальклору прысутнічае, «але не да сённяшніх стыляў», «гэта не сённяшні погляд на фальклор».

Паводле чутак, «Ліцьвіны» могуць быць запрошаныя выступаць у тэатры «Песняроў», які стварае Уладзімір Мулявін.

**Кірыла МІНСКІ**

# Астрологический прогноз

### от Вероники Кудрявцевой на 3 - 9 сентября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Понятие служения обретает конкретный смысл. Но в данном случае один в поле не воин и не спаситель – апелируйте к общественному мнению и опирайтесь на команду, друзей или единомышленников. К четвергу вы полны сил, обаяния и сможете порадоваться благожелательным новостям или любовным чарам, поэтому имеет смысл назначать на этот день самые «капризные» мероприятия. Кто-то подарит подарок в четверг или субботу, о котором вы давно мечтали.



**ТЕЛЕЦ**. Казалось, в понедельник ваш рейтинг стабилен, но во вторник и среду кто-то «подложит свинью». В четверг имеет смысл сделать ставку на обиженных или на посредников, нежелательно делать что-либо своими собственными руками. Экономическая платформа достаточно надежна, не исключены поступления от партнеров. Непроверенные факты, документы и ошибки в расчетах в воскресенье – результат игры, а не случая.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Вы с супругом или партнером по разные стороны баррикад, но к четвергу вырабатываете общую линию. Дом, семья и дети являются основным мотивом, побуждающим к действиям. Намечается встреча на высшем уровне в четверг, из которой вы выжмете для себя максимум возможного. Вы ощущаете свою привлекательность, внешний вид играет не последнюю роль. Обновляйте гардероб, неплохо бы заняться машиной в понедельник или субботу.



**РАК**. Вы на острие общественного мнения, порой вынуждены отвечать за чужие действия или просчеты. Не исключено, что кто-то ввяжется в борьбу амбиций. Однако вы не забываете о хлебе насущном, собирая обильный урожай в четверг и субботу. Вам предоставляются новые возможности на работе, лучше всего заняться карьерой. Не бойтесь пересаживаться на другие стулья в кабинете.



**ЛЕВ**. Как бы ни потерять в окладе в результате игр на работе. Зато в четверг вы способны рассчитаться за все обиды и долги сразу, не забывая устроить себе обильный праздник. Вы способны блеснуть талантами, создать союз. О вас думают лучше, чем есть на самом деле, и это весьма выгодно для создания приличного имиджа и рекламной кампании. Аппелируйте к тому, кто отличается боевыми качествами и незапятнанной репутацией честного человека.



**ДЕВА**. В первой половине недели не приходится мечтать о покое. В четверг кто-то готов «подстелить вам соломку», общественное мнение формируется по желательному сценарию. В субботу любимый человек или собственный ребенок создает для вас остров благополучия. Несмотря на защиту тех, кто вам должен, некоторые усилия прикладываются для ликвидации конфликта с друзьями, командой или влиятельными лицами в воскресенье.



**ВЕСЫ**. За вашей спиной предпринимаются меры калейдоскопического разнообразия, поэтому непросто удержаться на плаву, вас могут ограничить в действиях. Иммунитет несколько ослаблен. Однако колесо фортуны все еще на вашем поле, способствуя созданию незаменимого имиджа посредника в коллективных мероприятиях. Отличный период для создания взаимовыгодного союза, устройства детей в жизни. А в четверг – не ошибитесь в симпатиях, выстраивая очередь поклонников.



**СКОРПИОН**. Аналитики или авантюристы разных мастей и разными методами навязывают свои проблемы в первой половине недели. Не упустите свой шанс, касающийся недвижимости или обустройства домашнего очага. Перепадет кусочек от сладкого пирога в четверг или субботу – кому материальный, а кому любовный. В воскресенье вероятно вовлечение в спекулятивную историю или уплата штрафа.



**СТРЕЛЕЦ**. Кому-то придется ночевать на рабочем месте или напряженно выполнять профессиональный долг в первой половине недели. Случайные, почти телевизионные истории промелькнут перед глазами, и если от вас зависит их действие – участвуйте, будьте авантюристом. Четверг запомнится как время ярких приятных встреч, вероятен праздник на работе. Вы способны создать выгодный союз или брак в субботу.



**КОЗЕРОГ**. Вы можете вызвать интерес органов следствия или кто-то попытается покопаться в ваших тайнах. Однако у вас найдется действенный способ нейтрализовать «доброжелателей». В четверг не исключены важные закулисные переговоры. А у кого-то в этот день или в субботу наметится интригующая встреча с симпатичным человеком. В воскресенье оппонент готов подтасовать факты или документы.



**ВОДОЛЕЙ**. Вы действуете в экстремальном режиме, рискуете, вовлекая в процесс многих других людей. Хотя в четверг предоставляется шанс направить любую ситуацию в нормальное русло. Супруг способен помочь устроиться на работу или решить насущные профессиональные проблемы. Не исключено, что самые несмелые решатся заключить брак или союз. Вы пока на гребне волны и популярности, если методы благородные.



**РЫБЫ**. Несмотря на то, что вихри враждебные веют над вами, откуда ни возьмись — намечается помощь в размещении или получении из скрытых источников денежных средств. А в четверг определенно становится легче дышать, может решиться важный коммерческий или технический проект. Прием на высшем уровне окажется весьма кстати в этот день. В воскресенье из-за участия в какой-то игре могут «лишить слова» или транспортного средства, средства связи.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@ircx.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1755 Нумар падпісаны ў друк 2/09/2001 (15:00) Наклад — 9.410